ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год. XXVI, № 235 New York, November — Лістапад 1976 Vol. XXVI. № 235

## 25-Я ЎГОДКІ ПАРАХВІІ БАПЦ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ



Царква Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе

Сяньняшні Кліўленд міліённы горад у штаце Огаё, шырака ведамы, як адзін з цэнтраў цяжкае прамысловасьці Амэрыкі. З гэтае прычыны сюды прыбывала шмат палітычнае й эканамічнае эміграцыі яшчэ перад Першай Сусьветнай вайною, якая стварыла тут свае калёніі й зарганізаваныя групы, як нацыянальныя, гэтак і рэлігійныя. На сяньняшні дзень у Кліўленьдзе налічваецца каля паўсотні актыўных нацыянальных групаў і шмат нацыянальных цэркваў, зь якіх 26 цэркваў праваслаўных каля 11-ці розных юрысдыкцыяў.

Беларуская эміграцыя ў Кліўленьдзе зусім маладая. Яна арганізацыйна афармілася толькі ў 1950 годзе, калі прыбылі сюды вялікія групы Беларусаў з ДП-лягераў Заходняй Нямеччыны. Аднак за кароткі час яна патрапіла тут наладзіць сваё рэлігійнае жыцьцё й пабудаваць сваю прыгожую царкву, заснаваць беларускія нацыянальна-грамадзкія арганізацыі, як Аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Аддзел Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне й прыдбаць сваю маемасьць — Беларускі Грамадзкі Цэнтр „Полацак". Гэтым самым беларуская эміграцыя ў Кліўленьдзе дагнала прыбылыя сюды раней іншыя нацыянальныя эміграцыі й поўнасьцяй улілася ў жыцьцё гораду. Яна сваёй нацыянальнай актыўнасьцяй хутка сталася добра ведамай як у Кліўленьдзе, гэтак і вонках яго. Вялікую ролю ў заснаваньні й разьвіцьці беларускае калёніі ў Кліўленьдзе адыграла царква.

Сёлета споўнілася 25 год ад часу, калі 14 кастрычніка 1951 году Архіяпіскап Васіль зь Нью Ёрку наведаў Кліўленд і склікаў агульны сход праваслаўных Беларусаў, на якім быў выбраны часовы Царкоўны Камітэт. Мэтаю Камітэту было зарганізаваньне парахвіі й прыдбаньне будынку пад царкву.

Парахвіяльная Рада з царкоўным прытчам на сваім паседжаньні 24 верасьня сёлета й пастанавілі адзначыць 25-годзьдзе ад заснаваньня Парахвіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці асабліва ўрачыста, так як Парахвія мае права ганарыцца пабудаваньнем першай у ЗША собскай прыгожай царквы. Каб зрабіць гэта больш урачыста й шырака, Парахвіяльная Рада пастанавіла запрасіць на сьвяткаваньне ўгодкаў усё духавенства БАПЦ ЗША й Канады, усе парахвіяльныя рады, старшыняў галоўных управаў і аддзелаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ды разрэклямаваць належна гэтыя ўгодкі ў гарадзкой англамоўнай прэсе.

Угодкавае сьвяткаваньне пачалося ў сыботу 23 кастрычніка а 7-ай гадзіне ўвечары ўрачыстай вячэрняй, якую адправіў Архіяпіскап Мікалай у суслужэньні сьвятароў і пратадыякана ў прысутнасьці Ўладыкі Мітрапаліта Андрэя. У нядзелю 24 кастрычніка перад абедам адбылася архірэйская літургія, якую адправіў Мітрапаліт Андрэй у суслужэньні Архіяпіскапа Мікалая з Таронта, а Максіма з Дэтройту, а. Рыгора зь Нью Ёрку, Пратадыякана Міхася й сямёх прыслужнікаў. Царкоўны хор пад кіраўніцтвам новага й здольнага дырыгента Уладзімера Літвінкі прыгожа выконваў напевы ў часе літургіі й малебену. Падчас Божае Службы а. Рыгор зь Нью Ёрку сказаў прыгожую пропаведзь у ангельскай мове, у якой моцна падчыркнуў важнасьць рэлігіі ў жыцьці сям'і й народу.

У канцы Божай Службы Мітрапаліт Андрэй, назваўшы дзень сьвяткаваньня важным гістарычным мамэнтам, прачытаў глыбака апрацаваны даклад на тэму 685-ых угодкаў зацьверджаньня Наваградзкай Мітраполіі Канстантынопальскім Патрыярхам. Пасьля літургіі быў адслужаны малебен у чэсьць Патронкі Царквы Жыровіцкае Божае Маці.

Пасьля царкоўных службаў усе зыйшлі наніз у царкоўную залю, дзе чакаў смачны й багаты абед, падрыхтаваны нашымі жанчынамі. Абед распачаўся малітваю й багаслаўленьнем уладыкаў. Неззабаўга пасьля гэтага распачалася праграма, якую адчыніў старшыня Парахвіяльнае Рады. Прывітаўшы духавенства, прадстаўнікоў арганізацыяў, гасьцей і парахвіянаў ды падзякаваўшы ўсім ім за ўдзел у сьвяткаваньні, ён прадставіў сына Бурмістра гораду Ралфа Пэрка малодшага, які прачытаў Праклямацыю Бурмістра на 25-я ўгодкі Парахвіі. Пасьля гэтага старшыня Парахвіяльнай Рады перадаў вядзеньне праграмы Архіяпіскапу Мікалаю.

Уладыка Мікалай, прывітаўшы прысутных, шчыра падзякаваў хору й ягонаму дырыгенту Ул. Літвінку за прыгожы сьпеў падчас Божае Службы. Тады Ўладыка прадставіў праф. Аўгена Каханоўскага, які прачытаў грунтоўна апрацаваны даклад на тэму 25-цігодзьдзя Парахвіі. Як сьветка й удзельнік заснаваньня Парахвіі, ён апісаў ейныя пачаткі й пазьнейшае разьвіцьцё, набыцьцё царкоўнае маемасьці, пабудову царкоўнага будынку, зазначыўшы ахвярны ўдзел парахвіянаў ува ўсіх гэтых падзеях. Ён таксама падчыркнуў важную ролю нашае царквы ў іншых галінах дзейнасьці, як вядзеньне Беларускае сыботняе школы, выдавецкая дзейнасьць, агульная рэпрэзэнтацыя Беларусаў навонкі й ейнае значаньне для беларускай калёніі ў Кліўленьдзе. Рэфэрат зрабіў на прысутных добрае ўражаньне й быў выслуханы зь вялікай увагай.

Пасьля дакладу Ўладыка Мікалай прадставіў гасьцей сьвятароў і прадстаўнікоў арганізацыяў, якія ў свой чарод віталі Кліўлендцаў зь іхнымі ўгодкамі й жадалі далейшых дасягненьняў на будучыню. Ад украінскіх цэркваў і вялікае колькасьці прысутных Украінцаў віталі прат. Сьцяпан Ганковіч і Фёдар Каваленка. Ад суродзічаў з Канады віталі старшыня Парахвіяльнай Рады Прыходу БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага Барыс Кірка, ад Беларускага Мастацка - Выдавецкага Клюбу „Пагоня" й ад Згуртаваньня Беларусаў Канады вітаў Кастусь Акула, вітаў таксама сп. Целеш. Ад Беларусаў Дэтройту прывітаў ген. д-р Я. Сажыч. Ад Галоўнай Управы БАЗА прыгожымі й глыбока патрыятычнымі словамі вітаў ейны старшыня Антон Шукелайць. Ёнжа перадаў прывітаньне ад галоўнага рэдактара газэты „Беларус" д-ра Станіслава Станкевіча й ад старшыні Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня ў Нью Ёрку Зінаіды Станкевіч. Спасярод прысутных гасьцей віталі архітэкт А. Назарэц, сп-ня Ніна Амброзія, якая прадэклямавала свой прывітальны верш, і іншыя, а ў канцы вітаў а. Рыгор ад Парахвіі БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага у Нью Ёрку.

Пасьля гэтага Мітрапаліт Андрэй прачытаў прысланыя пісьмовыя прывітаньні ад сакратара Кансысторыі БАПЦ прат. Васіля Кендыша, прат. Карпа Стара ад Парахвіі БАПЦ у Дэраты, Нью Джэрзі, ад прат. М. Мігая з Таронта, ад Парахвіяльнай Рады Парахвіі БАПЦарквы ў Гайлэнд Парку, Н. Дж., і іншых.

У мастацкай частцы танцавальная група мясцовага Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі пад кіраўніцтвам Марусі Каваленкі выканала два беларускія народныя танцы „Лявоніху" й „Крыжачок". Жаноцкі хор „Васількі" пад кіраўніцтвам Ул. Літвінкі вельмі прыгожа прапяяў тры беларускія народныя песьні: „А ў полі вярба", „Ручнікі" й „Ой і сеяла Ульляніца лянок". На заканчэньне ўсяе праграмы быў разьдзелены традыцыйны каравай, адмыслова зрыхтаваны на юбілейнае сьвята.

Сьвяткаваньне 25-ых угодкаў Парахвіі БАПЦ у Кліўленьдзе наагул прайшло вельмі ўдала й шырака выклікала зычлівыя водгукі, за што належыцца вялікая падзяка ўсім тым, што да гэтага спрычыніліся. На вялікі жаль, ня ўсе змаглі прысутнічаць на абедзе, бо царкоўная заля не магла ўсіх памясьціць. Парахвіяльная Рада не прадбачыла гэткае вялікае колькасьці ўдзельнікаў сьвяткаваньня й не забясьпечыла большага памяшчэньня.

Прысутны



У часе ўрачыстага абеду сын Бурмістра Ралфа Пэрка сп. Ралф Пэрк малодшы чытае Праклямацыю



Духавенства пасьля аблачэньня Ўладыкаў
Зьлева направа: Пратадыякан Міхась, а. Рыгор, Архіяпіскап Мікалай, Мітрапаліт Андрэй, а. Максім, ля аналою дырыгент Ул. Літвінка

## КАНФЭРЭНЦЫЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ РАДЫ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЯЎ

Пры Нацыянальным Камітэце Дэмакратычнае партыі ЗША, наўзор фэдэрацыі этнічных групаў Рэспубліканскае партыі, паўстала нядаўна Дэмакратычная Рада Нацыянальнасьцяў (ДРН). ДРН актывізавалася адно напярэдадні выбараў, але спадзяецца працягваць сваю актыўнасьць і ў будучыні.

У Нью Ёрку 27 кастрычніка сёлета адбылася канфэрэнцыя ДРН на тэму „Стратэгія свабоды". Сярод іншых праблемаў, якія абмяркоўваліся на канфэрэнцыі, было пытаньне свабоды для народаў Усходняе й Цэнтральнае Эўропы. Канфэрэнцыя, абмеркаваўшы гэтае пытаньне, прыняла наступную рэзалюцыю:

„Дзеля таго, што амэрыканскія грамадзяне ўсходняэўрапейскага й цэнтральнаэўрапейскага паходжаньня непахісна супрацьставяцца камуністычнай дамінацыі сваіх ранейшых радзімаў;

„Дзеля таго, што амэрыканскія грамадзяне ўсходняэўрапейскага й цэнтральнаэўрапейскага паходжаньня горача адданыя справе свабоднага карыстаньня ўсімі асноўнымі людзкімі правамі ў гэных краёх;

„Дзеля таго, што праводжаньне ў жыцьцё свабоды ў гэных краёх павінна дасягацца, прапагандавацца й пашырацца ўсімі магчымі спосабамі;

„Дзеля гэтага Дэмакратычная Рада Нацыянальнасьцяў пры Нацыянальным Камітэце Дэмакратычнае Партыі станоўка падтрымвае пазыцыю Губэрнатара Картэра ў тым, што да вызваленьня народаў Усходняе й Цэнтральнае Эўропы трэба актыўна імкнуцца ды што яно павінна быць дасягнутае пры дапамозе ўсіх належных і легальных сродкаў".

Удзельнікі канфэрэнцыі, што азнаёмленыя з навакольлем Губэрнатара Картэра, адзначаюць, аднак, што пазыцыя, якую заняла Дэмакратычная Рада Нацыянальнасьцяў і прынятая ёю рэзалюцыя, не абавязкава павінны супадаць з пaглядамі Картэравых дараднікаў.

Нам цікава ведаць пагляды ў гэтым пытаньні Картэравых дараднікаў, але асабліва важна ведаць, што думае пра гэта сам будучы Прэзыдэнт, які яшчэ афіцыйна не пацьвердзіў Рэзалюцыі Дэмакратычнай Рады Нацыянальнасьцяў, але таксама й не запярэчыў ёй. Незалежна ад таго, як канчаткова выкляруецца пазыцыя будучага Прэзыдэнта ў пытаньні паняволеных расейскім камунізмам народаў, Рэзалюцыю ДРН застаецца горача вітаць і пажадаць, каб выказаныя ў ёй прынцыпы здабывалі штораз большае кола прыхільнікаў і пасьлядоўнікаў у радох Дэмакратычнае Партыі Амэрыкі.

**Пра Беларусаў Нью Джэрзі** будзе шырака гаварыцца ў рыхтаванай да друку юбілейнай кнізе штату, што выйдзе з друку да канца сёлетняга году. Артыкул пра Беларусаў апрацаваў др. Вітаўт Кіпель. Др. В. Кіпель апублікаваў таксама агляд савецкага геалягічнага часапісу за 1974 год у амэрыканскім часапісе „Экономік Джэолоджы" (т. 71, № 6, 1876).

**УВАГА! — ВАЖНАЕ — УВАГА!**

**Апошні тэрмін, да якога можна прысылаць нам $ 10 за зьмяшчэньне ў наступным нумары „Беларуса" Вашага імя й прозьвішча разам зь імёнамі Вашых сем'янінаў у супольным калядным і навагоднім павіншаваньні, а таксама $ 25 за індывідуальнае павіншаваньне на дзьвюх шпальтах — ПЕРАСУНУТЫ да 30 лістапада сёлета.**

**Віншавальная калёнка будзе ў новым мастацкім афармленьні мастачкі Ірэны Рагалевіч.**

**УСІМ ТЫМ, ШТО НЯ ЎРЭГУЛЮЮЦЬ СВАЕЙ ЗАДОЎЖАНАСЬЦІ ЗА ГАЗЭТУ ДА КАНЦА ГЭТАГА ГОДУ, ДАЛЕЙШАЯ ЕЙНАЯ ВЫСЫЛКА, ПАЧЫНАЮЧЫ ІЗ СТУДЗЕНЯ 1977 ГОДУ, БУДЗЕ СПЫНЕНАЯ!**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $10.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
**Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.**
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## НА 80-Я ЎГОДКІ МІКОЛЫ ШЧАКАЦІХІНА

Часапіс „Маладосьць" у сваім верасенскім нумары сёлетняга году ў сталай сваёй рубрыцы „Ці помнім мы ўсё?" прыгадаў, што 13 кастрычніка сёлета спаўняюцца 80-я ўгодкі ад нараджэньня выдатнага беларускага мастацтваведа Міколы Шчакаціхіна. Не зважаючы на гэтае паведамленьне, сам-жа часапіс „Маладосьць" у сваім сёлетнім кастрычніцкім нумары гэтых важных для беларускай культуры ўгодкаў не адзначыў ніводным словам. Ня былі адзначаныя гэтыя ўгодкі і ў часапісах „Полымя" й „Беларусь". Асабліва зьдзіўляе тое, што й тыднёвік „Літаратура і Мастацтва", будучы газэтай прысьвечанай бягучым падзеям у літаратуры й мастацтве Беларусі, не адзначыў гэтых угодкаў таксама.

Кім-жа быў для Беларусі Мікола Шчакаціхін і якія ягоныя заслугі для гісторыі беларускага мастацтва дый наагул для беларускай нацыянальнай культуры?

Сваю манаграфію пра Міколу Шчакаціхіна, выдадзеную ў 1968 годзе выдавецтвам „Навука і тэхніка" ў сэрыі папулярна-навуковых нарысаў пра выдатных дзеячоў беларускае культуры, малады беларускі мастацтвавед Арсень Ліс закончыў гэткімі словамі: **„Сёньня таленавітая спадчына Міколы Шчакаціхіна вернутая народу, якому яна, складзеная шчырым сэрцам і высокім розумам, належала кожным сваім радком, кожнай часьцінкай".**

Нажаль, спадчына гэтая вернутая народу адно тэарэтычна. Арыштаваны ў 1930 годзе як беларускі нацыянал-дэмакрат і высланы ў Башкірыю, дзе ў 1940 годзе й памёр, напрыканцы 50-х гадоў, разам зь іншымі арыштаванымі ў пагромных 30-х гадох дзеячамі беларускай культуры, Мікола Шчакаціхін дачакаўся сваёй, хоць і пасьмертнай ужо, рэгабілітацыі. Аднак ніводная з навуковых працаў Міколы Шчакаціхіна ня была перавыдадзеная ў Беларусі й ня сталася, наўсуперак словаў Лісавай манаграфіі, „вернутай народу". Затое асаблівае вымовы набірае перавыданьне Шчакаціхінавае манаграфіі „Нарысы зь гісторыі беларускага мастацтва", гэнай „галоўнай задумы ягонага жыцьця", як кажа Арсень Ліс, за мяжой. Перавыдала яе ў 1970 годзе ў Нью Ёрку Беларускае Навуковае Таварыства ймя Праньціша Скарыны.

Мікола Шчакаціхін у беларускім культурным жыцьці першага й пачатку другога савецкага дзесяцігодзьдзя постаць у некаторым сэньсе ўнікальная. Яна шмат у чым прыгадвае гэткую-ж выняткава ўнікальную постаць у беларускай літаратуры папярэдняе нашаніўскае пары — Максіма Багдановіча. Як ведама, у раньняй біяграфіі Максіма Багдановіча былі ўсе перадумовы дзеля таго, каб ён стаўся расейскім паэтам, як гэта трапна адзначыў Міхась Стральцоў у сваім прыгожым нарысе „Ад Максіма кніжніка пачатак". Тымчасам, хоць і адарваны ад бацькаўшчыны ды навучыўшыся беларускай мовы адно кніжным шляхам, Максім Багдановіч гэтак глыбака пранік беларускім патрыятызмам, што стаўся выдатным беларускім паэтам, наватарам і піянэрам у прысваеньні нашай паэзіі найлепшых узораў сусьветнае літаратуры.

Падобна й Мікола Шчакаціхін. Пра нацыянальнае паходжаньне ягонага бацькі ў манаграфіі Арсеня Ліса сказана вось што: **„Можна ня без падстаў дапусьціць, што бацька Міколы Шчакаціхіна паходзіў зь Беларусі. Бо адкуль у прыроджанага масквіча ўзьнікла ня толькі думка, а й патрэба пісацца Беларусам і месцам нараджэньня называць горад Магілёў. Гэтыя зьвесткі знаходзім у даведніку „Навуковыя супрацоўнікі СССР", выдадзеным у 1925 годзе, паўтораны яны і ў сьпісе навуковых супрацоўнікаў Інстытуту Беларускай Культуры, які захоўваецца ў архіве Акадэміі навук БССР".**

Ураджэнец Масквы і ўзгадаваны ў расейскім культурным асяродзьдзі, Мікола Шчакаціхін, перабраўшыся ў 1922 годзе ў Беларусь ды пачаўшы чытаць курс гісторыі беларускага мастацтва на Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску, упяршыню самавызначыўся, як беларускі патрыёт. Гэтая акалічнасьць не магла не ўсхваляваць Арсеня Ліса, у манаграфіі якога, між іншым, чытаем:

**„Пазьней, чым больш пазнаваў малады вучоны Беларусь, чым глыбей пачынаў адчуваць яе гісторыю, мастацтва, яе народ, тым больш лічыў яе краем свайго духовага нараджэньня. Сюды прыйшоў ён, пакліканы голасам свайго прызваньня, Беларуская зямля напаіла яго сэрца ўзвышанай любоўю. Праца на яе карысьць, дзеля яе культурнага росквіту, дзеля яе дабра зрабіла яго моцным, дала магчымасьць шырока разгарнуцца яго таленту".**

Арсень Ліс прыгадаў вельмі цікавую ў гэтым сэньсе адну акалічнасьць у сувязі з прачытанай Шчакаціхінам публічнай лекцыяй у 1924 годзе на курсе беларусаведы пра гісторыю беларускага мастацтва: **„Лектар зьдзівіў слухачоў, якія ведалі, што Шчакаціхін год таму назад упяршыню пачуў жывое беларускае слова, сваёй дасканалай мовай".**

Забягаючы трохі наперад, Арсень Ліс пісаў далей: **„Можна адзначыць, што ў 1925 годзе Шчакаціхін быў назначаны стылістам навуковых выданьняў Інбелкульту, якія, як ведама, выходзілі ўсе на беларускай мове".**

„Нарысы зь гісторыі беларускага мастацтва", выдадзеныя ў 1928 годзе ў Аддзеле гуманітарных навук Інстытуту Беларускае Культуры, былі адно першым томам задуманае й разьлічанае на пяць тамоў капітальнае працы. Гэты першы том абыймаў курганныя помнікі беларускага прыкладнога мастацтва дагістарычнае эпохі ды беларускае архітэктурнае мастацтва XI-XVI стагодзьдзяў. Гэта было першае ўсыстэматызаванае дасьледваньне згаданых галінаў беларускага мастацтва дадзенае эпохі. Ужыцьцёвіць гэтае вялізарнае „задумы ўсяго жыцьця" Міколу Шчакаціхіну з прычыны ягонага арышту гэтак і не ўдалося. Аднак і першы том „Нарысаў зь гісторыі беларускага мастацтва", што ў 1928 годзе пабачыў сьвет, а нядаўна перавыдадзены ў Нью Ёрку, прадстаўляе сабой вялікую навуковую й нацыянальную каштоўнасьць.

Мікола Шчакаціхін старанна й добрасумленна прастудыяваў усе ранейшыя працы рускіх, польскіх і заходніх вучоных пра помнікі як курганнага прыкладнога мастацтва Беларусі, гэтак і беларускага дойлідства XI-XVI стагодзьдзяў, увёў свае трапныя карэктывы да шмат якіх памылковых высноваў некаторых беларускіх і чужых вучоных, дапоўніў вынікі іхных дасьледваньняў собскімі досьледамі на мясцох. Ды ўсё гэта належна ўсыстэматызаваў і асэнсаваў з пазыцыяў сучаснае навукі, што ягоныя „Нарысы зь гісторыі беларускага мастацтва" прынесьлі трывалкі здабытак для беларускай мастацтваведнай навукі.

Другім ня менш важным дасягненьнем Шчакаціхінавай працы тое, што ён патрапіў і навукова абаснаваць высокую ступень арыгінальнасьці, апрычонасьці й нацыянальнай самабытнасьці архітэктурнага мастацтва Беларусі ў XI-XVI стагодзьдзях, а тым самым сьцьвердзіць высокі культурны ўзровень Беларусі ў далёкай мінуўшчыне.

Гэтак у царкоўнай архітэктуры Смаленску, Полацку й Віцебску крыніцамі вонкавага ўплыву было бізантыйскае будаўніцтва, якое, аднак, як сьцьвердзіў Шчакаціхін, ішло ня беспасярэдня зь Бізанцыі, а з Малой Азіі, галоўна із Сырыі за пасярэдніцтвам Каўказу, прыймаючы на сябе некаторыя ўплывы раманскага стылю із Захаду й даючы на беларускай глебе свае апрычоныя формы ды ў гэткім-жа відзе перадаючы іх будаўніцтву Ноўгараду й Пскова. Асобнае месца вызначае Шчакаціхін горадзенскай Каложы XII стагодзьдзя, якая, будучы цалком незалежнай ад бізантынскага ўплыву й пры некаторых асаблівасьцях уплываў заходніх, становіць сабой найлепшы прыклад апрычонага беларускага дойлідства.

Аналізуючы замкавае ваеннае будаўніцтва Заходняе Беларусі XIII-XVI стагодзьдзяў, Шчакаціхін выводзіць ягоныя ўзоры ад нямецкае, галоўна крыжацкае готыкі, што ўзноў-жа на беларускай глебе вытварыла шмат сваіх апрычоных нацыянальных асаблівасьцяў. Шчакаціхін піша:

**„Калі да XVI сталецьця мы можам казаць толькі аб готыцы ў Беларусі (пры гэтым ласьне аб нямецкай готыцы), — дык пачынаючы з гэтага часу мы павінны ўжо казаць аб асобнай беларускай готыцы, укладаючы ў гэтае паняцьце ня толькі тэрытарыяльны, але таксама й фармальна-стылістычны сэнс".**

У замкава-палацовым будаўніцтве канца XV — пачатку XVI стагодзьдзяў, галоўна ў архітэктурных формах замку ў Міры, знаходзіць Шчакаціхін своеасаблівае спалучэньне готыкі з рэнэсансам, якому, як піша ён, **„у іншых краінах нельга знайсьці ніякіх аналёгіяў".**

Гэткім парадкам капітальнае дасьледваньне Міколы Шчакаціхіна, хоць адно распачатае й далёка не закончанае, упісалася залатымі літарамі ў беларускую навуку. А перавыданьне ягоных „Нарысаў зь гісторыі беларускага мастацтва" на Захадзе, хоць і не даступнае сяньня Беларусам на бацькаўшчыне, мае агульнабеларускае значаньне. Поўнае прамаўчаньне вялізарных заслугаў Міколы Шчакаціхіна для беларускай мастацтваведнай навукі ў дзень ягонага 80-цігадовага юбілею, як і неадзначэньне гэтага юбілею можа быць успрынятае адно як цынічны зьдзек над беларускай нацыянальнай культурай і адным з найвыдатнейшых ейных творцаў і носьбітаў.

**Раман Шарупіч**

## СЬВЯТА ДАЖЫНАК У НЬЮ ЁРКУ

Цімала суродзічаў Беларусаў жыве сяньня за межамі свае бацькаўшчыны. Амаль усе яны пакінулі родны край дзесяткі год таму, але, не зважаючы на даўнасьць і зусім іншыя абставіны жыцьця, яны захавалі памяць і любасьць да беларускіх звычаяў і народных традыцыяў. Беларускія арганізацыі ў Вольным Сьвеце падтрымліваюць гэтую цягу да свайго роднага, ладзячы час ад часу традыцыйныя народныя абрады.

Гэтак і сёлета Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Нью Ёрку зладзіла 17 кастрычніка ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру пад царквою на Атлянтык эвэню сьвята Дажынак. Урачыстасьць Дажынак адчыніў і вёў старшыня Ньюёркаўскай Акругі БАЗА мгр. Мікола Кунцэвіч. Вельмі прыгожа былі ўдэкараваныя сталы кветкамі й каласамі, а накрыцьцё сталоў было добра дапасаванае да сьвята Дажынак.

Пасьля супольнага абеду, удала падрыхтаванага сяброўкамі БАЗА сп-мі В. Бартуль, А. Орса-Рамано, Г. Орса й М. Верабей, сп-ня Зінаіда Станкевіч прачытала ўрыўкі з XXV разьдзелу „Новае Зямлі" Якуба Коласа „Летнім часам" пра касавіцу й жніво. Кажны абразок, намаляваны прыгожым паэтычным словам, знаходзіў глыбокі водгук у душах уважна слухаючых удзельнікаў. Пасьля старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць падзяліўся сваім успамінам пра Дажынкі, якія захаваліся ў памяці яшчэ зь дзяцінства ў Жупранах на Ашмяншчыне, бацькаўшчыне Францішка Багушэвіча. Свае цікавыя ўспаміны, выказаныя трапнымі народнымі словамі, ён праілюстраваў цытатамі з розных народных песьняў: рэлігійна-абрадавых, песьняў працы й сатырычна-жартаўлівых песьняў.

Айцец Рыгор, новы сьвятар Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага багаславіў ежу, а пасьля сказаў прыгожую прамову, у якой падчыркваў сваю гатоўнасьць аказаць кажнаму ў патрэбе сьвятарскую любоў і апеку. Сп-ня Зіна Станкевіч горача заклікала, каб у дачыненьні да рэлігіі былі мы як найбольш талерантнымі, бо ня ўсе мы аднаго веравызнаньня. Д-р В. Кіпель і інж. М. Гарошка прамаўлялі на тэму прэзыдэнцкіх выбараў у ЗША.

Прысутныя мелі нагоду праслухаць у выдатным выкананьні сп-ні Веры Бартуль апавяданьне Зьмітрака Бядулі „Пяць лыжак заціркі", у якім гэтак вобразна быў задэманстраваны жанр сьмеху празь сьлёзытыповы гумар Беларуса-селяніна.

Усе разам радасна пяялі дажынкавыя й іншыя народныя песьні, разыйгралі лятарэю, танцавалі пад музыку беларускіх кружэлак. Запраўды ўдала, прыемна й карысна прайшло сёлетняе сьвята Дажынак у Нью Ёрку.

**М. Т.**

**БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**
ладзіць
**2-ую ВЫСТАЎКУ**
твораў малярства, рысунку, графікі
беларускіх мастакоў Эўропы й Амэрыкі
Адчыненьне выстаўкі
ў нядзелю 28 лістапада 1976 г., а гадз. 1-ай,
у Беларускім Грамадзкім Цэнтры
Бруклін,Нью Ёрк, 401 Атлянтык Авеню
Выстаўка пратрывае да 31. XII. 1976 г.
Наведваць можна нядзелямі ад 1-ай гадз.

# НЕСАМАВІТАЯ ГІСТОРЫЯ

## ЗЬ БЕЛАРУСКІМ ТЛУМАЧАЛЬНЫМ СЛОЎНІКАМ

Беларуская мовазведа, падобна як і ўсе іншыя гуманітарныя галіны беларусаведнае навукі, у пасьлясталінскім пэрыядзе перажыла як быццам сваё другое нараджэньне. Рэч у тым, што буйнае разьвіцьцё беларусаведных навукаў у 20-ых гадох было раптоўна спыненае напачатку 30-ых гадоў у выніку сталінскіх пагромаў беларускае культуры й ліквідацыі ейных творцаў і носьбітаў. Паўсталае з гэтае прычыны спусташэньне пазьней завяршыла вайна. Калі наступілі больш-менш спрыяльныя магчымасьці навуковага распрацаваньня паасобных пытаньняў беларусаведы, даводзілася бадайшто усё рабіць ад самага пачатку.

Сярод розных галінаў навуковае дзейнасьці Інстытуту мовазнаўства ймя Якуба Коласа Акадэміі навукаў Беларускай ССР на асаблівую заслугоўвае ўвагу дзейнасьць у слоўнікавай галіне, як база й аснова для ўсіх іншых галінаў моваведных дасьледваньняў.

Больш за 20 год таму Інстытут мовазнаўства ймя Якуба Коласа распачаў працу адначасна над гэткімі шматтомавымі навуковымі слоўнікамі, як Гістарычны слоўнік беларускае мовы, Этымалягічны слоўнік беларускае мовы, Дыялектны слоўнік, Нарматыўны слоўнік сучаснае беларускае літаратурнае мовы й некаторыя іншыя. Спасярод усіх тыпаў і катэгорыяў зрыхтоўваных слоўнікаў асабліва важным і патрэбным як з гледзішча чыста навуковага, гэтак і практычнага ёсьць Тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Роўна дзесяць год таму дырэктар Інстытуту мовазнаўства ймя Якуба Коласа Міхаіл Суднік у сваім інтэрвію ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 23 жніўня 1966 году падаў да ведама наступнае:

**„Найбольш значная работа, над якой цяпер працуе Інстытут, — Тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы... Тлумачальны слоўнік будзе мець нарматыўны характар і для гэтага забясьпечваецца шматлікімі камэнтарамі,... па колькасьці матарыялу беларускі тлумачальны слоўнік будзе большы за вядомы рускі пад рэдакцыяй Д. Ушакова. У нашае выданьне ўвойдзе каля ста тысяч найбольш ужываных слоў. Мяркуецца выпусьціць чатыры тамы. Аб'ём кажнага — прыкладна 100 друкаваных аркушаў. Цяпер рэдагуеццат першы том. Спадзяемся, ... што ён убачыць сьвет ужо ў 1969 годзе. А ў наступныя тры гады будзе закончана ўсё выданьне".**

Тымчасам першы том згаданага слоўніка ня выйшаў ня толькі ў 1969 годзе, але й да сяньня, як таксама ня выйшаў ніводзін зь іншых плянаваных слоўнікаў. Уся несамавітая гісторыя з выданьнем Тлумачальнага слоўніка гэткая: Дырэктар Інстытуту мовазнаўства імя Якуба Коласа згаданы Міхаіл Суднік яшчэ ў сваім артыкуле 1968 году ў кнізе калектыўнага аўтарства „Навука БССР за 50 год", інфармуючы пра розныя іншыя слоўнікі й моваведныя дасьледваньні, над зрыхтоўваньнем якіх Інстытут працаваў ужо 15 год, падаў да ведама й наступнае:

**„Найбольш значнае дасягненьне беларускай лексыкаграфіі за 50-гадовы пэрыяд яе разьвіцьця складаюць „Руска-беларускі слоўнік", апублікаваны ў 1953 годзе пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы й Пятра Глебкі, „Беларуска-рускі слоўнік", які выйшаў з друку ў 1962 годзе пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы, і чатырохтомавы „Тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы", над укладаньнем якога зараз працуе калектыў лексыкаграфаў Інстытуту мовазнаўства. Ад усіх папярэдніх дадзеныя слоўнікі адрозьніваюцца паўнатой ахопу слоў: кажны зь іх зьмяшчае каля 90 тысяч лексычных адзінак, запас-жа Тлумачальнага слоўніка абяцае дасягнуць 120 тысяч слоў".**

З прыведзеных словаў Міхаіла Судніка выглядала, што Тлумачальны слоўнік ужо тады быў траха гатовы да друку, так як было ўжо ведама, што ён мае абыймаць чатыры тамы й будзе зьмяшчаць 120 тысячаў словаў. Але год пазьней зьявіўся ў жнівенскім нумары часапісу „Полымя" за 1969 год артыкул аднаго з укладальнікаў слоўніка Алеся Каўруса. Ён удакладніў, што слоўнік будзе абыймаць 4 або 6 тамоў, будзе зьмяшчаць таксама каля 120 тысячаў словаў ды што цяпер адначасна рэдагуюцца два першыя ягоныя тамы.

Пасьля гэтага ў беларускім савецкім друку ня сустракалася ніякіх новых вестак пра Тлумачальны слоўнік на працягу 6-ёх гадоў аж да 1975 году, калі ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 1-га жніўня 1975 году былі надрукаваныя паведамленьні пра стан навуковай дзейнасьці Інстытуту мовазнаўства. З гэных паведамленьняў вынікала, што праца над зрыхтоўваньнем розных слоўнікаў усьцяж „у стадыі зрыхтоўваньня", як і 6 год таму, ды што Інстытут разгарнуў цяпер працу над новымі вялікімі слоўнікамі: „Тлумачальным слоўнікам мовы беларускай літаратуры XIX-XX стагодзьдзя", які мае зьмяшчаць 150-180 тысячаў словаў і будзе абыймаць 12-15 тамоў, а таксама над „Слоўнікам мовы Якуба Коласа", які мае быць выдадзены да 100-годзьдзя ад нараджэньня пісьменьніка. Пра стан зрыхтоўванага ад даўжэйшага часу „Тлумачальнага слоўніка сучаснай беларускай літаратурнай мовы" ў вадным із згаданых афіцыйных паведамленьняў Мікола Лобан інфармаваў:

**„Фундамэнтальная картатэка слоўніка сучаснай беларускай літаратурнай мовы ствараліся больш як дваццаць гадоў і цяпетр налічвае аж 2 міліёны 200 тысяч лексычных адзінак... Апошнія 15 гадоў усе супрацоўнікі сэктару рыхтавалі „Тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы", які мяркуем выдаць у пяці тамох у 1976-1980 гадох".**

Мяркавалі... Тымчасам слоўнік гэты не пачаў выходзіць і ў вызначаным для гэтага 1976 годзе, пра што між іншым сьветчыць выдадзеная сёлета ў „Бібліятэцы газэты „Голас Радзімы", прызначанай вылучна для Беларусаў у краёх Захаду, кніжыца моваведа Аляксандра Крывіцкага „У рытме з разьвіцьцём мовы". У ёй чытаем, што **„най-**

# 70-ГОДЗЬДЗЕ “НАШАЕ НІВЫ”

Семдзесят год таму, 10 лістапада 1906 году, выйшаў першы нумар газэты, ад якое ўзяў свой назоў цэлы пэрыяд нашае гісторыі — нашаніўства. На бачынах „Нашае Нівы” за гады ейнага выхаду (1906-1915), як на ўрадлівым загоне, буйна ўскаласілася цэлая ніва беларускае літаратуры й нацыянальнае думкі. „У ‚Нашай Ніве’, — расказваў Якуб Колас Максіму Лужаніну (гл. Лужанінаву кніжку „Колас расказвае пр асябе”), — густы парасьнік падымаўся. Каб ня было яго, і мы зь Янкам Купалам пасохлі-б. А так яшчэ і Гартны загаварыў, Бядуля, Максім Гарэцкі . . .”

У духу коласаўскага разуменьня важнасьці „Нашае Нівы” — важнасьці як для пачынальнікаў беларускага руху, гэтак і для нашых сучасьнікаў — Максім Лужанін прапанаваў быў на пятым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі ў травені 1966 году: „Справядлівасьць патрабуе сказаць, хоць гэта й выходзіць за межы мае задачы, што для разьвіцьця літаратуры, для разуменьня й дасьледаваньня яе трэба выдаць зборнік твораў паэтаў і пісьменьнікаў, якія пачыналі разам зь Янкам Купалам і Якубам Коласам друкавацца ў „Нашай Ніве”, па розных прычынах не разьвілі сваіх талентаў, але да пачатковага пэрыяду нашай культуры маюць непасрэднае дачыненьне”. („Лім”, 17. V. 66).

Не адзін Лужанін, пэўна-ж, выказваўся пра патрэбу паўнейшага вывучэньня „Нашае Нівы”. Шмат хто гаварыў пра гэта і да яго і пасьля яго.

У 1967 годзе, у 6-ым нумары часапісу „Полымя” Юльлян Пшыркоў апублікаваў запіс сваіх гутарак зь Якубам Коласам, гэтым волатам нашаніўскае пары: „Расказваў Якуб Колас і пра тое, — пісаў Пшыркоў, — што Аляксандар Уласаў (выдавец „Нашае Нівы” — Я. З.) прыслаў пісьмо Янку Купалу з просьбай заступіцца (гутарка йшла пра 1940 год — Я. З.). На маё пытаньне, як ён (Колас) адносіцца да гэтага чалавека, Канстантын Міхайлавіч пачаў гаварыць пра Ўласава зь вялікай павагай, назваў яго чэсным і сумленным працаўніком на ніве народнай асьветы. ‚Уласаў, — сказаў Колас, — памог мне й многім іншым маладым паэтам узыйсьці на літаратурную сьцежку. За адно гэта ён варты нашай павагі й пашаны’. Тымчасам, аднак, для выдаўца „Нашае Нівы” не знайшлося месца ў „Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі”.

„Мяне зацікавіла, — пісаў далей Ю. Пшыркоў, расказваючы пра свае гутаркі з Коласам, — як сам паэта ацэньвае ролю ‚Нашай Долі’ й ‚Нашай Нівы’.

„— У гэтых газэтах, — сказаў Колас, — я супрацоўнічаў разам зь Янкам Купалам і іншымі нашымі пісьменьнікамі. З Купалам мы дапусьцілі недаравальную слабасьць, публічна ў друку ахаялі сваю дакастрычніцкую творчасьць, але хіба выкінеш тое, што прайшло праз душу й сэрца, што зьяўляецца часьцінай уласнага жыцьця. Вам, маладым, трэба будзе вывучыць усё й як трэба ацаніць. Толькі ня крывеце душой, як некаторыя нашыя цяперашнія крытыкі й гісторыкі”.

„Наша Ніва” выходзіла рэгулярна штатыдня блізу дзевяць гадоў. Дзевяць гадавікоў „Нашае Нівы” — нязьведаная йшчэ скарбніца фактаў пра пачаткі беларускага адраджэньня дваццатага стагодзьдзя, пра людзей, што далі масавы імпульс руху за беларускую дзяржаўнасьць. Максім Лужанін зусім слушна прапанаваў выдаць зборнік нашаніўскіх паэтаў і пісьменьнікаў — што „па розных прычынах не разьвілі сваіх талентаў, але да пачатковага пэрыяду нашай культуры маюць непасрэднае дачыненьне”. Колькі іх было можна ўявіць сабе хоць-бы паводля наступных лікаў: за першыя тры гады выхаду „Нашае Нівы” ў ёй было апублікавана 246 вершаў 61 паэты ды 91 апавяданьне 36 розных аўтараў! А мы й чверці іх ня ведаем!..

Цяпер партыйная прапаганда, каб апраўдаць здушваньне справы вывучэньня „Нашае Нівы”, абзывае газэту „лібэральна-буржуазным органам”. У газэце „Советская Белоруссия” (11. VIII. 70) А. Малочка, рэцэнзуючы манаграфію Карнейчыка „Беларуская нацыя”, пісаў: „Аўтар манаграфіі рашуча выступае супраць ідэалізацыі ‚Нашай Нівы’ некаторымі гісторыкамі й літаратураведамі, супраць спробаў прадставіць яе як газэту рэвалюцыйнага кірунку, блізкую да марксызму. У манаграфіі пераканаўча паказана, што ‚Наша Ніва’ была газэтай буржуазна-лібэральнага кірунку, зь ярка выражанай нацыяналістычнай лініяй у ўсіх грамадзка-эканамічных пытаньнях”.

Гэтак пішуць цяпер карнейчыкі з малочкамі не таму, што яны патурбаваліся заглянуць у „Нашу Ніву”, а таму, што гэткае ацэны вымагае партыйная догма й сучасная русыфікацыйная палітыка. Тымчасам вось як ацэньваў „Нашу Ніву” Фёдар Турук у сваёй кнізе „Белорусское движение”, выдадзенай у Маскве ў 1921 годзе, калі гістарычныя факты можна было йшчэ паказваць гэткімі, якімі яны былі ў запраўднасьці:

„Стаўшы на шлях нацыянальна-вызвольнага руху, чужая ‚заалягічнаму’ нацыяналізму й шавінізму, ‚Наша Ніва’ ў паласе стальпінскае рэакцыі стаецца на даўжэйшы час адзіным цэнтрам беларускага нацыянальнага жыцьця, ‚люстрам душы й думак беларускага народу’, выражальніцай патрэбаў і інтарэсаў народных масаў, правадыром і зьбіральнікам народнае беларускае інтэлігенцыі, што пачала нараджвацца. Беларуская літаратура ўзбагачаецца цэлым шэрагам выдатных талентаў (Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч і інш.), якіх паклікала да жыцьця галоўна газэта з гушчаў беларускае сялянскае масы, і якія ў мастацкіх вобразах паказваюць гістарычна дакладны абраз горкае долі роднага народу-пакутніка, абраз ягонае сацыяльнае жыцьцёвае праўды, выказваюць шчырую веру ў сьветлую будучыню, якую беларускі народ заваюе собскімі сіламі, і супольна з палітычнымі дзеячамі прабіваюць ідэі адраджэньня беларускага народу сярод ‚стальпінскага супакойваньня’, дарогу далёка за межы роднага краю. У гэтым часе стаецца надзённым пытаньне пра нацыянальныя школы і ідэя ўводжаньня ў школах беларускае мовы прасякае пад уплывам газэты ‚Наша Ніва’ ў васярodзьдзе народнага настаўніцтва. Для выданьня беларускіх кніжак, падручнікаў, твораў ‚песьняроў’ паступова адчыняюцца ў Петраградзе, Вільні, Менску, Магілеве й іншых гарадох беларускія выдавецкія таварыствы, у бальшыні сваёй ідэйна й асабіста зьвязаныя з газэтай ‚Нада Ніва’ ”.

У гэтай Туруковай характарыстыцы „Нашае Нівы, як і ў Коласавых выказваньнях пра газэту, трэба шукаць адказу на пытаньне „Чаму пры сучасным рэжыме на Беларусі нельга свабодна заняцца вывучэньнем ‚Нашае Нівы’?” Бо на Беларусі сяньня падсякаюцца карані нацыянальнае сьведамасьці.

Калі-б на Беларусі беларуска-расейскія дачыненьні былі нармальнымі (як пра гэта кажа партыйная прапаганда), дык газэту „Наша Ніва” трэ было-б поўнасьцяй перавыдаць — гэтак як самі Расейцы зрабілі, прыкладам, із сваёй гэрцэнаўскай газэтай „Колокол”. „Нашу Ніву”, як і гэны „Колокол”, трэ было-б перавыдаць (у век таннага фатадруку гэта зрабіць ня так ужо й дорага) ды аддаць у рукі дасьледнікам літаратуры, студэнтам філялёгіі й журналістыкі, гісторыкам — інакш кажучы, аддаць яе цэламу народу, кроўнай часткай якога й была „Наша Ніва”. Тады можа й Карнейчык з Малочкам даведаліся-б сёе-тое новае пра яе й для сябе ды не цкавалі-б партыйных прапагандыстых на „лібэральна-буржуазны орган беларускага нацыяналізму”.

На сёлетнія-ж 70-ыя ўгодкі „Нашае Нівы”, ушаноўваючы памяць усіх тых, чыймі высілкамі, ахвярнасьцяй і талентам была створаная вялікая беларуская газэта, трэба паўтарыць за няўмiручым Янкам Купалам, які на пятыя ўгодкі „Нашае Нівы” напісаў верш з гэткім прысьвячэньнем: „ ‚Нашай Ніве’ са шчырым прыветам яе пяцілетняй ідэёвай працы для многамільённага беларускага народу”. Верш гэны, ведамы шмат каму з нас як адзін зь беларускіх нацыянальных гімнаў, пачынаўся словамі:

Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе. —
Не загіне край забраны,
Покі будуць людзі.

Словы гэтыя, як і ўвесь Купалаў верш „Нашай Ніве”, і сяньня ня страцілі ані свае філязофскае глыбіні, ані актуальнасьці. Яны нагадваюць нам пра тое, пра што Якуб Колас казаў Юльляну Пшыркову: „Вам, маладым, трэба будзе вывучыць усё й як трэба ацаніць. Толькі ня крывеце душой, як некаторыя нашыя цяперашнія крытыкі й гісторыкі”.

**Янка Запруднік**

## ДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ




**Беларуская група на пляцы імя Кардынала Міндшэнты**

Сьвяткаваньне Дня Паняволеных Народаў у Кліўленьдзе сёлета адбылося больш шырака й урачыста, чымся папярэднімі гадамі. Адбылося яно ў пятніцу 23 ліпеня ўвечары. Ладзіла яго арганізацыя Амэрыканскі Рух Нацыянальнасьцяў, у якую належыць 26 нацыянальнасьцяў, у тым ліку й Беларусы.

Сьвяткаваньне Дня Паняволеных Народаў сёлета было спалучанае з урачыстасьцяй прысьвячэньня пляцу пры вуліцы 12-ай Іст Кліўленду ў пляц імя Кардынала Міндшэнты, якога ўважаюць тут за змагара й гэроя Паняволеных Народаў. На гэтым пляцы й зьбраліся ўсе ўдзельнікі сьвяткаваньня. Пасьля кароткае ўрачыстасьці прысьвячэньня пляцу адбыўся вялікі парад нацыянальных групаў, некаторыя ў нацыянальных вопратках, з нацыянальнымі сьцягамі й надпісамі зь пераду. Апрача нацыянальных групаў, вялікі ўдзел у маршы прыняла гарадзкая паліцыя з аркестраю.

Адразу пасьля ўваходу ў гарадзкую залю пярэднія групы калёнаў, што несьлі сьцягі й плякаты, сталі наперадзе. Праграма распачалася малітваю. Першым выступіў Бурмістр гораду Ралф Пэрк, ён-жа й заснавальнік арганізацыі Амэрыканскі Рух Нацыянальнасьцяў. Пасьля яго выступіў з прамоваю прадстаўнік ад Прэзыдэнта Форда д-р Мірон Куропас, які перадаў прэзыдэнцкую Праклямацыю пра абвешчаньне Тыдня Паняволеных Народаў. Далей выступалі сьвятары ад самых розных цэркваў. Д-р Пап прачытаў рэзалюцыю Амэрыканскага Руху Нацыянальнасьцяў, якая была прынятая прысутнымі. Сьвяткаваньне было спалучанае з Двухсотгодзьдзем Амэрыкі, калі сьвятары, запаліўшы сьвечкі, услаўлялі ўгодкі 1776-1976, а ўсе прысутныя прапялі амэрыканскі гімн „Багаславі, Божа, Амэрыку!”

Вечарам на ўсіх трох каналах тэлевізіі было паказанае сьвяткаваньне й парад. Беларуская група была паказаная ў маршы на адным з каналаў поўнасьцяй.

**К.**

## ПАМЕРЛА ЛЕАНІЛЯ ГАРЭЦКАЯ

Менская газэта „Літаратура і Мастацтва” за 8 кастрычніка паведаміла, що 26 верасьня сёлета памерла ў Ленінградзе на 83-ім годзе жыцьця беларуская дзіцячая пісьменьніца й аўтарка школьных падручнікаў зь беларускай мовы Леаніля Гарэцкая (дзявоцкае прозьвішча Чарняўская), жонка выдатнага беларускага пісьменьніка й літаратураведа Максіма Гарэцкага.

Паходзіла яна зь вёскі Таргуны недалёка ад Докшыцаў. У 1910 годзе яна скончыла Марыінскае вышэйшае вучылішча ў Вільні. Настаўнічыла нейкі час на Дзісьненшчыне. У 1919 годзе, будучы настаўніцай беларускае мовы ў Віленскай беларускай гімназіі, выдала першы свой падручнік зь беларускай мовы—чытанку „Родны край”, пасьля чаго зрыхтавала й выдала колькі наступных частак падручніка пад тым-жа загалоўкам „Родны край” ды кніжачку апавяданьняў „Дзіцячыя гульні”.

У 1923 годзе разам із сваім мужам, моцна перасьледваным перад гэтым польскімі ўладамі, пераехала зь Вільні ў БССР, да 1932 году жыла й працавала ў Менску й Горках і выдала 9 кніжак апавяданьняў для дзяцей. Ейны муж Максім Гарэцкі быў у 1930 годзе арыштаваны й высланы на 5 год у Вятку, куды ў 1932 годзе пераехала й Леаніля Гарэцкая разам зь дзецьмі. У Вятцы яна жыла й пасьля паўторнага арышту мужа ў 1937 годзе ды й пасьля ягонае сьмерці ў 1939 годзе.

Леаніля Гарэцкая палажыла вялікія нацыянальныя заслугі, як дзіцячая пісьменьніца, культурная працаўніца, аўтарка школьных падручнікаў і выдатная настаўніца роднае мовы.

**больш буйным навуковым абагульненьнем. . . зьяўляецца „Тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў 5-ці тамох” (на 100 тысяч слоў), які створаны калектывам лексыкографаў Інстытуту мовазнаўства Акадэміі навук БССР і які яны рыхтуюць зараз да выданьня”.**

Дык значыцца, і сёлета ніводзін том гэтага слоўніка не пабачыць сьвету, бо, як сказана ў прыведзенай цытаце, ён і сёлета ўсё яшчэ „рыхтуецца да выданьня”. Не пачне выходзіць гэты слоўнік і ў наступным 1977 годзе. Бо вось у газэце „Літаратура і Мастацтва” за 5 жніўня сёлета зьмешчаны пералік важнейшых беларускамоўных навуковых выданьняў выдавецтва „Мастацкая Літаратура”, што маюць выйсьці ў 1977 годзе, а ў наступным нумары газэты „Літаратура і Мастацтва” за 13 жніўня 1976 году гэткі-ж пералік навуковых беларускамоўных выданьняў „Навука і тэхніка”, заплянаваных на 1977 год. У ніводным з гэтых выдавецтваў, у якіх мог-бы выйсьці гэты слоўнік, ён ня фігуруе зусім.

Што за несамавітая зьява? Пачынаючы ад 1966 году, выданьне Тлумачальнага слоўніка перасоўваецца з году на год аж да сёлетняга году і ўсьцяж у пустую, што ўжо можна было-б сьвяткаваць не адзін шматгадовы юбілей пустых абяцанак. І гэта абяцанак паважнай навуковай установы, якой мусіў-бы быць Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навукаў Беларускай ССР! Гэтаксама ня выйшаў і ніводзін іншы шматтомавы навуковы слоўнік, зрыхтоўваны адначасна з Тлумачальным слоўнікам. І гэта не зважаючы на тое, што ў афіцыйным пляне-каталёгу выпуску кнігаў на 1975 год выдавецтва „Навука і тэхніка” фігураваў першы том „Этымалягічнага слоўніка беларускай мовы ў васьмі тамох”. Дык і гэты слоўнік ня выйдзе ня толькі сёлета, але і ў наступным годзе.

Дырэктар Інстытуту мовазнаўства імя Якуба Коласа Міхаіл Суднік у згаданым сваім артыкуле на 50-ыя ўгодкі БССР, даўшы пералік зрыхтаваных і зрыхтоўваных моваведных выданьняў, ужо тады выказаў гэткае нараканьне: **„Гэты пералік прыкметна дапаўняюць такія карысныя, на жаль, ня выдадзеныя лексыкаграфічныя працы, як „Беларуска-ангельскі”, „Беларуска-французкі”, „Беларуска-нямецкі” слоўнікі”.**

Прычына заблякаваньня гэтых двумоўных слоўнікаў, у сувязі із штораз большым выцісканьнем беларускае мовы з друку, можа быць толькі адна: слоўнікі гэтыя ўважаюцца партыйнымі дзейнікамі лішнімі й навет шкоднымі з гледзішча сучаснае нацыянальнае палітыкі, бо ўплывалі-б на павышэньне ролі й аўтарытэту беларускае мовы. Дык ці ня больш мэтазгодна замяніць іх адпаведнымі расейска-ангельскім, расейска-французкім, расейска-нямецкім слоўнікамі, выдадзенымі ў Маскве?

З гэтае-ж самае прычыны ў ваблічы сучаснае русыфікатарскае нацыянальнае палітыкі не пажаданы й Тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы, а таксама й слоўнікі іншых катэгорыяў і тыпаў, пра якія згадвалася вышэй. Гэтае прыпушчэньне выдасца ня толькі праўдападобным, але й пэўным, калі прачытаць згаданы артыкул 1969 году Алеся Каўруса пра зрыхтоўваны тады Тлумачальны слоўнік. Згадаўшы, што складальнікі Тлумачальнага слоўніка абапіраюцца на „Беларуска-рускі слоўнік” 1962 году, Алесь Каўрус пісаў:

**„Аднак гэтыя сур’ёзныя працы** („Руска-беларускі слоўнік” 53-га й „Беларуска-рускі слоўнік” 62-га году — Ст. Ст.) **маюць пэўныя недахопы, што ўжо адзначалася ў друку; шмат якіх шырокаўжывальных беларускіх слоў у іх ня знойдзеш, некаторыя звычайныя нэўтральныя лексычныя адзінкі неабгрунтавана адгароджаны ад нас засьцярогамі: абласное, прастамоўнае, устарэлае . . . Літаратурная, моўная практыка перарасла межы гэтых слоўнікаў, даючы лексыкографам багаты матарыял на ўдакладненьні, папраўкі. Тое, што гадоў дзесяць назад, пры складаньні Беларуска-рускага слоўніка, не заўважалася, ня ўлоўлівалася, а можа толькі паяўлялася, сяньня стала фактам літаратурнай мовы, ігнараваць які ніхто з мовазнаўцаў ня мае права”.**

Штораз часьцей выказваліся аўтарытэтныя галасы найбольш аб’ектыўных моваведаў, пісьменьнікаў і асабліва настаўнікаў, што „Руска-беларускага слоўніка” 1953-га й „Беларуска-рускага слоўніка” 1962-га году нельга больш уважаць за абавязваючую норму сучаснае беларускае літаратурнае мовы, што абодвы гэтыя слоўнікі мусяць быць грунтоўна зрэвідаваныя й перавыдадзеныя. Пра згаданы „Руска-беларускі” слоўнік крытык Алесь Яськевіч яшчэ ў 1968 годзе ў артыкуле „Неўладкаванае філялягічнае сумежжа” ў часапісе „Маладосьць” пісаў:

**„Падрыхтаваны пасьпешліва, на недастаткова багатай лексычнай базе, бо падганяла практыка, ды і, відаць, не абышлося бяз уплыву тых спрошчаных схэм, што навязвала вульгарызатарская тэорыя, слоўнік складаўся такім чынам, што вельмі часта на першым месцы ставілася калька** (зразумела, калька з расейскае мовы — Ст. Ст.), **арыгінальнае-ж беларускае слова, як правіла, насоўвалася назад”.**

У сувязі з гэтым беларускія моваведы, зрыхтоўваючы „Тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы”, а таксама й іншыя навуковыя беларускія слоўнікі, хоць і арыентаваліся на агульныя схэмы Беларуска-рускага й Руска-беларускага слоўнікаў, але старанна адгароджваліся ад русыфікацыйных зьяваў гэтых слоўнікаў, а шырака выкарыстоўвалі нявычэрпныя багацьці мовы народнай. А гэта ўжо ішло ўразрэз з русыфікатарскім курсам сучаснае партыйнае палітыкі. Дык і плясьнее ў рукапісах ды ў архіве Інстытуту мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навукаў Беларускай ССР каштоўны плён шматгадовай працы беларускіх моваведаў, пазбаўлены магчымасьці пабачыць сьвет.

У сьвятле гэткае няспрыяльнае палітычнае сытуацыі й пры нязвычайна цяжкіх і няўдзячных абставінах упорыстая дзейнасьць беларускіх моваведаў ды іхная наважанасьць імкнуцца да чысьціні й культуры роднае мовы падыймаецца да ўзвышшаў нацыянальнага гераізму. А ўсё імі зробленае ня згіне бясьсьледна, а застанецца да лепшых часоў, калі свабодна зможа быць выкарыстаным для дабра й лепшае будучыні роднае беларускае мовы.

**Ст. Станкевіч**

